Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.



Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 9. Вільня, Чацьвер, 13-га сакавіка 1924 г. Год I.

## Хто разьвяжа?

Весткі, якія йдуць з Усходняе Беларусі, пераконываюць нас, што ў Саюзе Сацыялістычных Радавых Рэспублік запраўды і ў шырокіх дзяржаўных рамках разьвязуецца *беларускае пытаньне.*

Дагэтуль мы чулі толькі аб тым, што беларуская справа пастаўлена на Усходзе, як мае быць, толькі на маленечкім кусочку нашае тэрыторыі: у межах тых шасьцёх паветаў Меншчыны, якія ўвайшлі ў склад Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі. Тут, у Меншчыне, была створана запраўдная кузьня беларускае нацыянальнае культуры, тут запраўды пачаў рэалізавацца ідэал нашага *культурна-нацыянальнага будаўніцтва.*

Але гэта быў толькі адзін бок беларускага пытаньня. Культурны П'емонт ня вычэрпываў другіх бакоў справы, а перад усім не здаволіваў *палітычных імкненьняў* беларускіх працоўных масаў: імкненьняў да стварэньня свайго гаспадарства і аб'яднаньня ўсіх беларускіх зямель у межах апошняга. Стварэньне Беларускае Рэспублікі з шасьцёх паветаў выклікала нават часам недаверые да палітыкі радавае ўлады, сумляваньні ў шчырасьці пастаноўкі нацыянальнае праблемы трэцім інтэрнацыяналам наагул.

Цяпер дзеля гэткага сумляваньня і недаверыя ня можа быць месца. Не ўваходзячы ў матывы камуністычнае партыі, якімі яна кіравалася, выпрацовываючы сваю разьвязку нацыянальнага пытаньня, мы павінны сьцьвердзіць, што гэтая разьвязка шчыра і лёяльна рэалізуецца—прынамся ў адносінах да Беларусі.

Аднак, і тое, што робіцца ў Усходняй Беларусі, і далучэньне да менскага дзяржаўнага цэнтру — да шасьцёх паветаў Радавае Беларусі—яшчэ шаснаццацёх новых, ня можа разьвязаць беларускае справы *да канца*: бо-ж усё яшчэ некаторыя ўсходнія паветы Вітабшчыны, Смаленшчыны і Гомельшчыны з местам Гомелем астаюцца пад Масквой, а ўся Заходняя Беларусь прымушана напружаць усе свае сілы не за дзяржаўнасьць, не за аўтаномію нават, а *за самае права на беларускасьць.*

Хочам верыць, што адносна да ўсходніх паветаў Вітабшчыны, Смаленшчыны і Гомельшчыны трэці інтэрнацыянал акажацца таксама ляяльным, як і ў адносінах да тых шаснаццацёх, якія цяпер увайшлі ў склад Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі. Цяжэй стаіць справа з Заходняй Беларусяй: тут прыходзіцца мець дзела не з камуністычнымі, ці сацыялістычнымі ўрадамі, а *з панаваньнем буржуазіі*, якая ня толькі ня зьбіраецца шанаваць правы беларускага народу, а, наадварот, з цынічнай шчырасьцяй абвяшчае *праграму поўнага фізычнага зьнішчэньня беларускае нацыі* ў межах Польскае Рэспублікі.

Такім парадкам у Заходняй Беларусі беларуская справа апынулася ў безнадзейным палажэньні ў працягу ўсяго таго часу, пакуль тут будзе трываць улада нацыяналістычнае буржуазіі. Нейкія надзеі на паварот к лепшаму могуць быць зьвязаны хіба толькі з магчымасьцяй перавагі польскае „Лявіцы“. Але пры тым нацыяналістычным шале, які абхапіў нават і польскія левыя партыі ды толькі ледзьве-ледзьве пачынае слабець у самыя апошнія часіны, мы ад „лявіцы“ не спадзяемся *радыкальнае* перамены ў адносінах дзяржавы да беларусаў: хіба, што яе да гэтага прымусяць вонкавыя прычыны.

А вонкавыя прычыны дзеля такое перамены насьпяваюць. У апошнім нумары нашае часопісі мы адзначылі ўжо, як у сувязі з пераходам улады ў Англіі ў рукі работніцкае партыі англійская палітыка пачала цікавіцца беларусамі. Набліжаючыяся выбары ў францускі парлямант у сувязі з агульным крызісам францускае палітыкі, а перад усім францускіх фінансаў, суліць развал пануючага цяпер у Францыі „нацыянальнага блёку“ і адкрывае магчымасьць і тут узмацаваньня работніцкіх уплываў на дзяржаўнае жыцьцё. Крызіс, які перажыў бэльгійскі ўрад, паказвае, што і ў Бэльгіі магчымы пераход улады ў рукі сацыялістаў, ды нават і цяпер былі гутаркі аб стварэньні габінэту вядомага сацыялістычнага дзеяча Вандэрвэльдэ. Урэшце, ў Нямеччыне, як дагэтуль, сацыялісты маюць дужа вялікі ўплыў на дзяржаўную палітыку. І ўва ўсіх гэтых дзяржавах кіраўнічыя сацыялістычныя партыі належаць да *другога інтэрнацыяналу.* Вось, калі распачаты Англіяй курс улева пашырыцца і на другія дзяржавы Эўропы, дык зусім зразумела, што міжнароднымі адносінамі тут будзе кіраваць іменна другі інтэрнацыянал,—так сама, як у радавых рэспубліках падае агульны кірунак іх палітыцы трэці інтэрнацыянал.

Паўтараем: трэці інтэрнацыянал паставіў разьвязку беларускага пытаньня на належны грунт, хаця толькі частка нашае Бацькаўшчыны—Усходняя Беларусь — знаходзіцца ў „межах яго дасяганьня“. Пытаньне-ж аб 22 паветах Заходняе Беларусі будзе разьвязвацца пад простым ці зукосным уплывам другога інтэрнацыяналу, калі яму запраўды ўдасца здабыць кіраўнічную ролю ў жыцьці Заходняе Эўропы. І вось перад намі ўзьнімаецца пытаньне: ці і як здалее ён разьвязаць пытаньне аб Заходняй Беларусі?

Ведама, ад самых беларусаў, ад энэргіі іх прадстаўніцтва ў Польскім Сойме і замежнае эміграцыі будзе залежаць большая ці меншая зацікаўленасьць нашай справай працоўных масаў і іх афіцыяльных кіраўнікоў на Захадзе, а значыць і болей ці меней правільны падыход да гэтае справы з боку другога інтэрнацыяналу. Але і разьвязаньне — хоць-бы найлепшае—пытаньня аб аднэй толькі Заходняй Беларусі, як асобнае адзінкі, *не разьвязуе беларускага пытаньня ў цэлым*, не разьвязуе перад усім справы ўзаемаадносінаў паміж Заходняй і Усходняй Беларусяй.

Хто-ж гэтую справу здолее вырашыць? Вось загадка, на якую мы не бярэмся даваць адказ. Яго дасьць толькі *само жыцьцё.* Але разьвязка яго будзе ў значнай меры залежаць *ад нас самых*: ад нашае арганізаванае волі, ад нашае нацыянальнае сьвядомасьці і ад нашага пачуцьця супольнасьці інтарэсаў і культурнае еднасьці беларускіх працоўных масаў наабапал лініі рыжскага міру.

Аб гэтым павінны ўсьцяж памятаць усе беларусы, як па гэты, так і па той бок граічных капцоў.

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

## У чым запраўдная санацыя Польшчы?

Як ведама, свой знамяніты мэморыял аб фінансава-эканамічным палажэньні Польшчы п. Х. Юнг, пачаўшы, як той казаў, „за здравье“, кончыў „за упокой“...

— Бо сьцьвердзіўшы зусім слушна налічнасьць нявычарпаных натуральных багацьцяў, краёў аб'яднаных межамі сучаснай Польшчы, а таксама—здаровыя эканамічныя падставы апошняй, п. Юнг шмат пэсымістычней выказаўся аб невырашаемых яшчэ абодвума папярэднімі фактарамі магчымасьцях вылячэньня Польшчы ад яе фінансавай хваробы...

Кожнаму зразумела ўжо з аднаго гэтага, што тое, чаго ня могуць у фінансах направіць ані натуральнае багацьце краю, ані наагул памысная яго эканоміка, можа псавацца толькі тым, што можна наагул назваць *палітыкай.*

І ўсё ясней у Польшчы і паза яе межамі ўсе пачынаюць разумець, што *вонкава-палітычнае* палажэньне дзяржавы, якое ўсё больш пагаршаецца ў зьвязку з фатальным унутрана-палітычным складам і будовай яе, і дзеля гэтага папаўшая ў блуднае кола, адразу пазбаўленая крытычнага розуму і ўласнай волі, *апрыёры дрэнная палітыка*—вось рэчавістыя прычыны таго, што сучасная Польшча разьвіваецца, гэтак сказаць, *па закону катастрафічнай эвалюцыі наагул,* а перадусім жыве пад зусім не адкінутай, але толькі штучна затрыманай п. Грабскім *пагрозай фінансавай катастрофы..*

---

Вельмі лёгка таксама зразумець, што найлепшай меркай, найбольш выразным довадам агульнай палітычнай хваробы тэй ці іншай дзяржавы зьяўляецца тая „пазыцыя“ ў яе буджэце, якая дае *лічбу выдаткаў на войска...*

Кожнаму ясна, што войска зьяўляецца галоўнай часткай таго дзяржаўнага „апарату санкцыяў“ (фізычнага прыняволеньня), які мае агульнай задачай *замяніць нармальныя і лёяльныя — мірныя, дагаворныя, саюзныя* — адносіны як вонках, так і ўнутры дзяржавы... Чым больш *спорных* мамэнтаў вонках і ўнутры дзяржавы, чым больш спрэчнымі зьяўляюцца яе вонкавыя граніцы і яе ўнутраная ўрадова-грамадзкая лёяльнасьць, *тым больш войска* павінна трымаць дзяржава, каб усе гэтыя *споры і спрэчкі* заўсёды падаўляць ці прымусова вырашаць на сваю карысьць... *Абсалютная спорнасьць* вонкавых адносінаў азначае і стварае *састаяньне вайны*; *абсалютная спрэчнасьць* унутраных адносінаў, наадварот, робіць вонкавую вайну немагчымай, бо адпавядае састаяньню *хатняй вайны...* Але, як тое, таксама і другое прымушае дзяржаву самазабойча *павялічываць сваё войска..*

---

І вось можна сьмела сказаць, што няма ў сьвеце краю, які-б меў больш элемэнтаў гэтай вонкавай і ўнутранай спорнасьці і спрэчнасьці, як Польшча...

Гэта значыць, няма краю ў сьвеце, які-б павінен быў мець *стасункова больш войска*, як Польшча... І мы ведаем, што так яно ў запраўднасьці і ёсьць... Бо, здаецца, толькі Францыя канкуруе ў гэтым з Польшчай...

Але гэта таксама значыць, што, пры ўсей максымальнай лічбе войска, няма ў сьвеце краю, які-б *больш павінен быў ваяваць, ці прынамсі рыхтавацца да вайны, але адначасна менш мог фактычна гэтую вайну вясьці і вытрымаць!..*

Да таго йшчэ трэба дадаць, што нармальна кожны саюз, ці дагавор паміж дзяржавамі павінен наагул *зьмяншаць* мамэнты вонкавай спорнасьці дзяржавы, гэта значыць—змяншаць лічбу яе войска; але ў Польшчы і ў гэтым—ненармальна,—бо зусім наадварот: адзіны саюз, які мае сучасная Польшча (з Францыяй)—*прымушае яе павялічываць свае войска...*

Гэткім чынам мы бачым, як дакладна і сьціслa фатальна-ненармальная палітычная структура і пазыцыя Польшчы павінна адбіцца ў яе буджэце, — ствараць *катастрафічную эвалюцыю перадусім у яе фінансах...*

І п. Х. Юнг, зразумела, ня мог не падкрэсьліць у сваім мэморыяле таго, аб чым зусім выразна, але і вельмі пэсымістычна, кажа ня толькі ангельская, але і найбольш паважная француская прэса.

У сваім мэморыяле ён пісаў, што „калі ашчаднасьць ня зможа даткнуцца выдаткаў на войска, дык труднасьць зраўнаважаньня буджэту ўзрастае непамерна“!..

А выразам гэтай хваробы павінна быць, калі

можа тымчасам і штучна-сталая, дык у кожным разе *нястойкая валюта*...

І суменны фінансавы дарадца польскага ўраду ў канцы свайго мэморыялу робіць вывад, што „калі-б Польшчы, ня гледзячы на высілкі, не ўдалося давясьці сябе да раўнавагі ў буджэце,—эканамічна яна магчыма, але яе могуць спыніць *іншыя перашкоды*,— тады *адзіным ратункам* зьявілася-б помач загранічнага капіталу“... Але ў краі з гэткай нястойкай валютай, „капіталіст, нават пры найлепшых варунках і гарантыях, *ня можа і ня будзе памяшчаць капіталу*“...

„Тады ўжо Польшча была-б павінна прыгатавацца да таго, „што загранічныя капіталісты патрэбуюць зусім іншых, шмат далей ідучых гарантыяў, калі яны захочуць прыйсьці з дапамогай ёй сваімі капіталамі“... Загранічныя крэдытары захочуць тады ня больш-няменш як „самі кантраляваць усю буджэтную“, а адсюль, як мы ўжо ведам, і ўсю неразрыўна зьвязаную з ёй і *агульную палітыку* Польшчы...

„Але гэта—ўступка, аб якой ніводны край ня можа мысьліць без найвялікшай абразы і хіба толькі як аб апошнім ратунку“...

Так канчае свой знамяніты мэморыял дарадца Польшчы п. Х. Юнг.

---

Што-ж значыць гэты „загранічны кантроль“ ня толькі над фінансавай, але і над агульнай палітыкай, якую ролю ў гэтым усім павінны будуць іграць закранутыя намі напачатку пытаньні „спрэчнасьці“ і „спорнасьці“ вонкавых і ўнутраных адносінаў Польшчы, лепш за ўсё відаць з вельмі лічных і выразных галасоў ангельскай прэсы...

Адна з найпаважнейшых ангельскіх газэтаў у арт. „Польскія трывогі і амбіцыі“ ня так даўно пісала:

„Польшча пераважна сама сабе нарабіла клопату, з якім цяпер ужо ня можа ўправіцца... Зашмат павялічаныя тэрыторыяльныя амбіцыі, падтрымліваныя Францыяй у яе ўласных мэтах, зрабілі тое, што Польшча далучыла да свае тэрыторыі чужыя землі і масы чужаплеменцаў, якія ніколі ня зробяцца запраўды польскімі“... *Калі-б ня армія*, дык Польшча была-б зусім у залежнасьці ад праглынутых праз яе „меншасьцяў“, якія яе ненавідзяць“...

Але-ж якраз гэтая армія, як мы ведаем, і руйнуе польскія фінансы... Дык газэта зусім ня верыць, што Польшча здолее справіцца з сваім аснаўным ліхам...

І—што-ж тады? „А тады, адказывае газэта, у адзін прыгожы дзень Польшча, таксама, як Вэнгрыя, папросіць аб дапамозе Лігу Народаў, якая тады будзе мець магчымасьць...—*патрабаваць звароту Віленшчыны Літве*“...

Ці Віленшчыны і ці Літве, гэта няважна...—Галоўная рэч тутака ў тым, што *адзіны запраўдны ратунак* усялякай, а перадусім фінансавай санацыі Польшчы, ёсьць, агульна кажучы,—*памяншэньне ў ёй наагул мамэнтаў спорнасьці і спрэчнасьці*—як вонкавых, таксама і ўнутраных... Бо — ад надмеру іх Польшча гібее... Ці гэта магчыма? —

---

Нядаўна „Gaz. Warsz.“ цытавала з „Times“ справаздачу з лекцыі аб Польшчы, гэтага самага п. Хільтона Юнга, у якой той паміж іншым сказаў:

„Польшча, ня маючы натуральных („бяспрэчных“?!).. граніцаў, мае перад сабой цяжкое заданьне: або, з прычыны мілітарнай слабасьці не магчы абараніцца перад нападзеньнем Расеі ці Нямеччыны, або выбраць фінансавае банкруцтва“...

П. Юнг станоўча радзіць Польшчы выбраць першы рыск—ваенны, але ня фінансавы, пазываючыся на прыклад Англіі, якая пачынае ўзбройвацца толькі ў часе вайны, у мірныя часы перадусім робячы добрыя фінансы...

Але добра ангельцу даваць гэткія рады, забываючы тое, што ён сам толькі што сказаў: Польшча—ня востраў („ня мае натуральных рубяжоў“), і ня будзе мець часу—„карміць сабак“, калі раптам пачнецца „паляваньне“...

Дзеля таго альтэрнатыва п. Юнга шмат трагічней.

**М.**

# Палітычныя падзеі.

### ПОЛЬШЧА.

Справа кракаўскіх выпадкаў 6 лістапада будзе разглядацца ў Кракаўскім Акружным Судзе прысяжных у красавіку г. г.

---

„Trybuna Robotnicza“ паведамляе, што ў Станіславове паліцыя арыштавала 25 работнікаў за тое, што выпісвалі і чыталі газэту „Trybuna Robotnicza“. Шмат арыштаваных зьбіта. А староства аблажыла штрафам да 500 злотых усіх арыштаваных работнікаў за выпіску „Trybuny Robotniczej“. Дадамо ад сябе, што работніцкая газэта „Trybuna Robotnicza“ выходзіць зусім легальна больш, як год.

---

З прычыны таго, што прамыслоўцы не згадзіліся на выплату 34% дадатку, ўсе профэсыянальныя саюзы тэкстыльнай прамысловасьці абвесьцілі генэральную забастоўку. Бадай усе фабрыкі спыніліся, забастоўка ахапіла ўвесь лодзінскі вокруг. Работнікі бастуюць у Лодзі, Згежу, Пабіяніцах, Тамашове, Чэнстахове і Азоркаве.

---

Акружны Суд у Сасноўцы разглядаў справу сябраў адкрытай у Сасноўцы камуністычнай ячэйкі пад кіраўніцтвам Баранкевічаў. Абодва Баранкевічы засуджаны на 2 гады катаргі, рэшта на $2^1/_2$ гады звычайнага вастрогу.

---

# Навакола пашырэньня тэрыторыі Б.С.С.Р.

## Як працаваў Менск.

З матар'ялаў апублікаваных у Менскіх часопісах, відаць, што Урад Б. С. С. Р. ужо больш году энэргічна працуе над пытаньнем злучэньня ўсіх беларускіх зямель па той бок Рыжскае мяжы. Спачатку гэтае пытаньне было абгаворана на зьездзе Камуністычнай партыі ў Менску, і па дакладу старшыні Беларускага Савецкага ўраду Чарвякова партыйны зьезд Савецкае Беларусі аднагалосна прыняў рэзалюцыю па нацыянальнаму пытаньню, у тым ліку і аб пашырэньні тэрыторыі Б. С. С. Р. на Усход. Потым уся гэтая праца вялася Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларусі. Былі арганізаваны Камісіі, якія сталі зьбіраць матар'ялы і рыхтаваць даклады ў Маскву.

Але ніхто з грамадзян і нават партыйных і савецкіх працаўнікоў дэтальна ня ведаў аб працы гэтых камісіяў. Усё рабілася сэкрэтна, а менскія часопісі таксама маўчалі. Толькі калі-ні-калі газэта „Савецкая Беларусь“ друкавала артыкулы і карэспадэнцыі аб жыцьці Вітабшчыны, Магілёўшчыны і Смаленшчыны, што зьяўлялася вельмі характэрным і гаварыла менскім беларусам, што ў афіцыяльных сфэрах Б. С. С. Р. ідзе нейкая праца і ёсьць зацікаўленнасьць беларускімі тэрыторыямі на Усходзе.

Прыблізна з паўгода таму назад у верасьні ці кастрычніку 1923 г. даклады Менску абгаварваліся ў Маскве і прынцыпова было выращана пашырыць тэрыторыю Б. С. С. Р. Пасьля гэтага праца пайшла шпаркімі крокамі наперад. Смаленскі Выканаўчы Камітэт не спрачаўся. За тое Вітэбскі і Гомельскі Выканаўчыя Камітэты выявілі пэўную апозыцыю дамаганьням Менску, але пасьля таго, як у Маскве гэтае пытаньне было вырашана на карысьць Менску—і Гомель і Вітабск перамянілі сваю пазыцыю. На губэрскіх Зьездах Радаў, якія адбыліся ў Гомелі і Вітабску ў сьнежні 1923 году беларускае пытаньне было пастаўлена на парадак дня. З Менску ў Гомель прыехалі сябры Ц. В. Камітэту Беларусі, Жылуновіч (Ц. Гартны) і Нодэль, а ў Вітабск—Ігнатоўскі і Славінскі. Прадстаўнікоў Менску горача віталі, як у Гомелі, так і ў Вітабску і аднагалосна былі прыняты рэзалюцыі аб далучэньні гэтых раёнаў да Савецкае Беларусі. Адначасна з гэтым у Менску часопісі і, асабліва, „Савецкая Беларусь“ павялі рашучую акцыю на карысьць злучэньня ўсіх усходніх беларускіх земляў. На кожным мітынгу і грамадзянскім сходзе ў Менску пытаньне аб вялікай Б. С. С. Р. было злобаю дня, і пастанова Савецкага ўраду аб пашырэньні Б. С. С. Р. прымалася ўсім беларускім грамадзянствам бяз выключэньня з радасьцю. На ўрачыстым паседжаньні ў сьнежні месяцы, ахвяраванаму пятнаццацігадоваму юбілею беларускага песьняра Ц. Гартнага, прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў і ўстановаў віталі песьняра больш не за яго песьні, а за тое, што ён увесь час змагаўся за гэтае пашырэньне Савецкае Беларусі на Усход. Слухачы беларускага пэдагагічнага тэхнікуму на ўрачыстым паседжаньні, ахвяраваным пашырэньню Беларусі, пастанавілі прысвоіць свайму тэхнікуму імя Багуцкага, аднаго з актыўнейшых дзеячоў, якія вялі гэтую справу. Характэрна, што Багуцкі, будучы паляком па нацыянальнасьці, карыстаецца такою папулярнасьцю сярод беларускай моладзі.

Цяпер, як паведамляюць менскія часопісі, праца зьвязаная з пашырэньнем Б. С. С. Р., канчаецца. Спэцыяльная камісія на чале з Адамовічам прымае далучаныя да Беларусі тэрыторыі. Усяго далучана, згодна з пастановай Выканаўчага Камітэту Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, 8 паветаў Вітабшчыны з гор. Вітабскам, 6 паветаў Гомельскай губ. і 2 паветы Смаленскай губ. Апрача гэтага далучаны цэлы рад валасьцёў, у якіх пераважная большасьць беларускага жыхарства. У палове сакавіка мае быць скліканы надзвычайны Зьезд Радаў усяе Усходняе Беларусі, які выбярэ новы ўрад і новы Ц. В. К. Беларусі.

## Ініцыятары пашырэньня Б. С. С. Р.

Менская беларуская газэта надрукавала партрэты тых палітычных і грамадзкіх дзеячоў, якія працавалі над справаю пашырэньня Б. С. С. Р. На першым месцы пастаўлены старшыня беларускага ўраду Чарвякоў і сэкрэтар Цэнтральнага Бюра Камуністычнай Партыі Беларусі, Багуцкі. Першы паходзіць з сялян Ігуменскага павету. Вучыўся ў Віленскім Настаўніцкім Інстытуце, які скончыў у 1915 годзе. Пасьля прымаў актыўнае ўчасьце ў беларускім сацыялістычным руху ў Петраградзе і карыстаўся пашанай сярод беларускіх рабочых. З леваю часткаю Беларускае Сацыялістычнае Грамады ён далучыўся да Камуністычнае партыі. Па нацыянальнасьці Чарвякоў—беларус.

Багуцкі паходзіць з работнікаў гораду Беластоку. З 1904 году прымае ўчасьце ў рэвалюцыйным руху. Шмат сядзеў у турме ў царскія часы. Па нацыянальнасьці Багуцкі—паляк.

# Спрэчныя тэрыторыі.

## Лёс Гомеля.

Як паведамляюць менскія газэты, Гомель і Гомельскі павет не далучаны да Савецкае Беларусі з тае прычыны, што на падставе статыстычных даных у Гомелю і павеце менш, як 50% беларускага насяленьня.

Але прыймаючы пад увагу, што статыстычныя даныя старыя і што яны носяць сьлед старых русыфікатарскіх тэндэнцыяў — Менск вядзе спрэчку аб лёсе Гомеля, і, магчыма, што ў хуткім часе гэткую спрэчку выйграе. Такая-ж спрэчка йдзе і за два другіх паветы Гомельшчыны і за тры паветы Вітабшчыны, якія адыйшлі да Пскоўскай губ.

## Новыя беларускія газэты.

У зьвязку з пашырэньнем Б. С. С. Р. у Менску заснавалася новая беларуская газэта „Беларуская Вёска“. Рэдактарам гэтае газэты зьяўляецца стары Беларускі адраджэнец, які супрацоўнічаў яшчэ ў „Нашай Ніве“—Шыпіла. Увесь час Шыпіла працаваў у Сыбіру і рэдагаваў там сялянскую газэту парасейску.

У „Савецкай Беларусі“ Шыпіла надрукаваў шмат вельмі цікавых матар'ялаў аб жыцьці беларусаў у Омскай губ.

Вітабская расейская газэта „Известия“ пачынае друкаваць у кожным нумары артыкулы па беларускаму пытаньню. Частка іх друкуецца ў беларускай мове. Тое-ж самае робіць і Магілёўская газэта, якая ў хуткім часе пераходзіць на беларускую мову. Газэта „Савецкая Беларусь“ становіцца афіцыяльным органам Ц. В. К. Савецкае Беларусі і, як відаць, будзе абслугоўваць партыйных і савецкіх працаўнікоў і беларускую інтэлігенцыю.

---

Львоўскія газэты паведамляюць, што мясьнікі рыхтуюць вываз за граніцу 200.000 штук сьвіней.

З гэтага відаць, што ў той час, калі цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты растуць, імкнучыся да перадваеннай роўні, цэны на прамысловыя вырабы абніжаюцца, таксама зьбліжаючюся да перадваеннай роўні.

Гэтае зьявішча мае вялікае значэньне ня толькі для сялян, але і для работнікаў, бо адносна ўзросту цэнаў на с.-гаспад. прадукты павялічваецца і заработная плата, а адначаснае паніжэньне цэнаў на прамысловыя тавары адбываецца ня коштам абніжэньня работніцкіх заработкаў ці павялічэньнем дня працы, як у буржуазных дзяржавах, але праз удасканаленьне апарату вытворчасьці. Адначасна ліквідацыя крызісу давядзе да раўнавагі ўва ўсім гаспадарчым жыцьці. Разьвіцьцё прамысловасьці пойдзе далей шыбкім тэмпам, бо сяляне ўсе ў большым разьмеры будуць набываць прамысловыя тавары.

---

Рада аб'яднаных уласьнікаў капальняў абвесьціла работнікам новыя варункі працы: зьменшаньне платы на 10% і павялічэньне дня працы... Работнікі на гэта адказалі пагрозай пачаць агульную забастоўку...

---

„Гэнаральскі Суд“ у Кракаве прызнаў вядомага па кракаўскай крывавай бойні 6 лістапада ген. Чыкеля, б. начальніка кракоўскага ваен. Округу, нягодным да вышэйшых камандных пастоў.

## С. С. Р. Р.

Паслом у Пэрсыю назначана вядомая камуністка Каллонтай. Здаецца,—упяршыню яшчэ на пост пасла папала кабета.

Да Масквы прыехаў і ўрачыста ўручыў у Крэмле Старшыні ВЦІК'а Калініну свае „граматы“ польскі пасол Дароўскі.

Грэцкі ўрад падпісаў дакумант, якім прызнае юрыдычна С.С.Р.Р.

Абодва ўрады зрабілі ўжо крокі да ўзнаўленьня нармальных адносінаў паміж абодвума краямі.

## ФРАНЦЫЯ.

Газэты паведамляюць, што выбарны Левы блёк трэба лічыць дакананым фактам. Дайшло да поўнага паразуменьня паміж паасобнымі партыямі. Блёк ахоплівае буржуазных дэмакратаў, рэспубліканцаў, радыкалаў і сацыялістаў. У гэтай справе падпісана ўмова. Характэрна, што францускія сацыялісты зрабілі ўмову з буржуазнымі групамі і адмовіліся ад блёку разам з камуністамі, якія прапанавалі ім супрацоўніцтва на выбарах.

„Journal“ паведамляе аб забурэньнях у паўднёвай Францыі ў зьвязку з узростам дарагоўлі, якая асабліва там адчуваецца. У Марсэлі распачалася забастоўка партовых работнікаў; пагражаюць забастоўкай і чыгуншчыкі, калі будуць адкінуты іх дамаганьні аб устанаўленьні заработнай платы, паводле парытэту золата.

Ня глецзячы на ўсе перамогі Пуанкарэ, на вельмі энергічныя меры, ня гледзячы на вельмі значна павялічыўшыяся „даходы“, якія лупяць акупацыйныя ўлады з Руры і Надрэніі, якія даходзяць амаль ня 5.000.000 зал. франкаў у дзень...,—ўсё-ж француская валюта спадае так катастрафічна, як яшчэ ніколі.

## ІНДЫЯ.

У правінцыі Пэнджас дайшло да баёў паміж ангельскімі войскамі і племенем Акалі. У адным месьце на ангельскі аддзел напала 500 узброеных і 5000 няўзброеных людзёў. Аддзелу ўдалося адбіць напад, пры чым забіта 14 і паранена 34 чал. Пасьля гэтага арыштавана 100 асобаў, сярод іх сябра індускага нацыянальнага кангрэсу.

## БЭЛЬГІЯ.

Нарэшце неяк утварыўся новы габінет — з тым самым прэм'ерам Тэнісам на чале. Варта падкрэсьліць, што мін. загран. спраў стаў добра ведамы і нам—віленцам п. Гюманс, сталы прадстаўнік Бэльгіі ў Лізе Народаў, аўтар знамянітага праекту аб 3-кантонным гаспадарственным ладзе для амаль „Незалежнай Віленшчыны“,—сталы прэзэс для ўсіх польска-літоўскіх „мірных“, але бясплодных канфэрэнцыяў...

Склад габінэту гаворыць аб тым, што палітыка Бэльгіі ня вельмі зьменіцца ў параўнаньні з дасюляшняй.

Лібэралы нават закідаюць Гюмансу яго залішнюю прыхільнасьць да Францыі.

## АНГЛІЯ.

Урад запрапанаваў Радаваму ўраду назначыць ангельска-радавую канфэрэнцыю на пачатак красавіка.

Ваенны буджэт Англіі, які прадставіў урад Мак-Дональда, паменшаны на 7 мільёнаў фунтаў (ангельскі фунт роўны даваенным 10 рублям). Лічба войска таксама мае быць вельмі значна паменшана...

## ПЭРСЫЯ.

Ужываўшы сабе вясёлага курортнага жыцьця ў Ніццы (на палудні Францыі) пэрсідзкі шах раптам атрымаў тэлеграму, што ён — ужо ня шах, што ён і яго ўвесь род выгнаны на заўсёды з Пэрсіі, і што ўсе яго маёмасьці канфіскаваны, каб на атрыманыя за іх грошы народ набудаваў сабе чугунак...

Штосьці ня вельмі многа ўжо і засталося на гэтым сьвеце гэтых шахаў!..

## ТУРЦІЯ.

Ангорскі Парлямэнт, разам з султанам і яго ўсім родам, выгнаў таксама з рубяжоў Турцыі і мусульманскага „папу“, так званага *каліфа*, пераліўшы яго духоўную ўладу для Турцыі на самаго сябе:—Каліфам для Турцыі зьяўляецца сам Ангорскі Парлямэнт... Гэты многагаловы каліф перадусім вельмі карэжыць правоварных магамэтанаў, а другое,—што вельмі важна: адзіны каліфат для ўсіх мусульманаў разьбіўся, і Турцыя не зьяўляецца больш мусульманскім „Рымам“, што мела вельмі важнае для яе палітычнае значэньне.

З гэтага вельмі спрытна скарыстала Англія.—Не жадаючы прызнаць каліфам выкінутага з Турцыі сябра скампрамітаванай дынастыі, яна праз „свае“ мусульманскія „правінцыі“ Мэсапатамію, Ерузалім, Гэджас і інш. аб'явіла новым усемусульманскім каліфам свайго прыхільніка эміра Гусэйна, і цяпер будзе праз яго вясьці прапаганду на карысьць свайго аўтарытэту ўва ўсіх краях з мусульманскім насяленьнем.

Стары каліф прыехаў жыць да Швайцарыі...

Турэцкі габінэт падаўся ў адстаўку, каб абляхчыць Ізьміду-пашы стварыць новы ўрад.

## ГРЭЦЫЯ.

Габінэт Кафандарыса падаў у адстаўку. Гэта паражэньне Вэнізелёса і яго думкі народнага галасаваньня ў справе манархіі ці рэспублікі.

## МАРОКО (Паўночная Афрыка).

У Гішпанскім Мароко гішпанскія войскі, што дагэтуль так няўдала вялі вайну з мясцовым насяленьнем, ізноў засталі пабітымі. Гішпанцы страцілі многа забітых і раненых. Па афіцыяльным гішпанскім данясеньням перамога на старане ўрадовых войск... Але падмога ў 14.000, пасланая ў Мэлілю, кажа, што перамога—няпоўная...

# З Польскага Сойму.

### Законапраект аб апецы над безработнымі.

Сойм прыступае да абрадаў па законапраекту проці безрабоцьця. Абодвы міністры Працы і Скарбу выказаліся проці ўсіх праправак, пашыраючых шэрагі падлягаючых апецы безработных, напрыклад,—працаўнікоў умысловых прафэсыяў, і дамагаліся скарэйшай ухвалы праекту. Крытыкаваўшыя праект прамоўцы даводзілі, што перадусім устава ня вырашыць справы не зьліквідуе *сучаснага* вострага безрабоцьця, бо ўвойдзе ў сілу толькі за паўгода, або й за год, не паможа і таму няведамаму, што будзе за год. А пасол-камуніст Ланцуцкі дык проста назваў законапраект—„мыдленьнем вачоў і ашуканствам“, за што быў прызнаны да парадку маршалкам...

### Уціск украінцаў польскай уладай.

Украінец Скрыпа малюе той шырокі фон, на якім зьяўляюцца такія выпадкі, „самазабойства“ арыштаваных, як Бесарабавай.

Пасярод украінскіх дзеячоў за апошнія часы зроблена каля 3000 вобыскаў і арыштаў... Паліцыя, як у найгоршыя царскія часы, падкідае літэратуру, аружжа; правакацыя расьцьвяла, як ніколі нідзе... Народ украінскі сваім спакойствам дае давод дасьпеласьці, але дамагаецца ад ураду, каб спыніў уціск і зьдзек. Дамагаецца зьняцьця забароны з Укр. Сац.-Дэмакр. партыі.

Мін. унутр. спраў п. Солтан кажа, што партыя украінск. С.-Д.—„выбітна камуністычная, вядзе антыдзяржаўную агітацыю, імкнецца да адарваньня ад Польшчы ўсей украінскай тэрыторыі, і дзеля таго ўрад павінен і будзе забараняць яе дзеяльнасьць... Міністар колькі разоў называе украінцаў „русінамі“, выклікаючы тым абурэньне пасярод прадстаўнікоў гэтага клюбу...

Дамаганьне украінцаў адкінута...

### Падазроная сьмерць у вастрозе украінкі Бесарабавай.

Пас. Хруцкі матывуе сьпешны запрос да мін. справядлівасьці аб таёмнай сьмерці Бесарабавай. 9/II яна была арыштавана, 13/II знойдзена мёртвай у вастрозе. Паліцыя падала ў газэты, што ў вастрозе павесілася Юлія Бароўская. Радні Бесарабавай—жыхароў Львова не паведамілі аб яе сьмерці, і пахавалі тайна. У працягу некалькіх дзён вастрожная адміністрацыя прынімала для Бесарабавай абед, што прыносіла радня. Калі ўсё раскрылася, дык пачалі насіцца чуткі аб тых пытках і зьдзеках, якіх дазналася ахвяра...

Доктар-прафэсар унівэсытэту пры ўскрыцьці цела ўстанавіў катаваньне, як пісалі ў газэтах... Прамоўца дамагаецца праверкі гэтых чутак і адкапаньня трупа для збаданьня...

Міністар справядлівасьці Выганоўскі, замест таго, каб запярэчыць гэтым цьвярджэньням інтэрпэлянта, стаў маляваць, як і за што яе арыштавалі. „Гэткае адбяганьне ад рэчы рабіла ўражэньне, быццам п. міністар меў намер выклікнуць у соймавай большасьці *адразу варожыя адносіны да нябошчыцы, абвінавачанай*“, *як камуністкі*, *і шпёнкі*.., ці, як

# Ленін і сялянства.

З вестак аб сьмерці і хаўтурах Леніна ясна відаць, што гэтая сьмерць зрабіла вялізарнае ўражаньне ня толькі на гарадзкі пралетарыят усяго сьвету, але і на сялянства, асабліва Радавых Рэспублік.

Як і дзеля чаго гэты правадыр работнікаў, які адважыўся распачаць увядзеньне сацыялізму ў Расеі, здалеў здабыць даверые і падтрыманьне сярод сялянства, якое, як думаюць некаторыя тэорэтыкі, стаіць так далёка ад сацыялістычных ідэалаў! Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба каротка прадставіць адносіны Леніна і яго партыі да сялянскай справы. Расейская партыя бальшавікоў, якой ад самага заснаваньня кіраваў Ленін, паміж іншым тым розьнілася ад іншых сацыялістычных партыяў, што прызнавала вялікую вагу сялянства.

Ува ўсіх партыйных спрэчках у сялянскай справе Ленін заўсёды прыймаў шырокае і жывое ўчасьце. Ніколі ён не падзяляў становішча тых, нібы-то чыстых, сацыялістаў, што лічылі непатрэбнай і шкоднай абарону сялянскіх інтарэсаў, бо сяляне — гэта дробная буржуазія, якую павінны праглынуць абшарнікі. Толькі пасьля пралетарызацыі сялянства, пасьля пераходу ўсяе зямлі ў рукі невялічкай жмені абшарнікаў, гэтыя „чыстыя“ сацыялісты лічылі, што можа быць гутарка аб сацыялістычнай рэвалюцыі. Ленін бачыў, што гэткі сацыялізм зьяўляецца хвальшывым сацыялізмам, ён бачыў, што істнуе вялізарнае нездаваленьне сялянства з істнуючых адносінаў на вёсцы, якія мала чым розьняцца ад адносінаў з часоў прыгону, бачыў добра, што гарадзкі работнік можа знайсьці ў селяніне магутнага саюзьніка ў сваей барацьбе за вызваленьне з капіталістычных ланцугоў. Чакаць з распачацьцем рашучай барацьбы, пакуль усе сяляне будуць пазбаўлены зямлі, гэта значыла-б зусім ня думаць аб такой барацьбе, зрачыся яе. Ленін не баяўся барацьбы. Ен лічыў, што да гэтай барацьбы трэба ўцягнуць і сялянства. Найважнейшай прычынай руху сярод сялянства быў зямельны голад. Заспакаеньня гэтага зямельнага голаду Ленін ніколі не баяўся. Ня раз, яшчэ перад 1905 годам, перад першай расейскай рэвалюцыяй, казаў ён, што пазбаўленьне абшарнікаў зямлі і падзел яе сярод сялянства мела-б вялізарнае рэвалюцыйнае значэньне. Утварэньне сялянскіх радаў, якія-б змагаліся за зямлю і распарадкавалі здабытай зямлёю, было, на думцы Леніна, адным з найважнейшых заданьняў рэвалюцыі.

Дзеля гэтага няма ў гэтым нічога дзіўнога, што зараз-жа ў першы дзень па здабыцьці ўлады выдае ён дэкрэт аб зямлі для сялян. Робяць закід Леніну, што гэты дэкрэт аб зямлі зьяўляецца зямельнай праграмай эсэраў, з якімі ён так змагаўся. Калі, аднак, гэтая праграма „зямля для сялян“ была праграмай эсэраў, усё-ж такі яны гэтай праграмы не правялі ў жыцьцё тады, калі мелі ўладу, за ўраду Керэнскага, які быў таксама эсэрам. Ленін змагаўся з эсэрамі не за іх зямельную праграму, а за іх угадовую дзеяльнасьць, за іх папяровы сацыялізм. Што датыча іх зямельнай праграмы, дык ён лічыў эсэраўскую праграму за больш рэвалюцыйную і слушную, як нібы-то сацыялістычная праграма меншавікоў. Здабыўшы ўладу, Ленін пастанавіў зьдзейсьніць і ўсё тое, што было добрага ў эсэраў, але чаго яны паміма сваіх праграмаў, баючыся буржуазіі, ня сьмелі зрабіць.

Па здабыцьці ўлады ў дзяржаве, абарона інтарэсаў сялянста зьяўляецца адным з галоўных заданьняў ураду, якім кіраваў Ленін. Каб зламаць спраціў паўпанкоў (кулакоў), якія выслугоўваліся перад буржуазіяй, урад Леніна выдаў дэкрэт аб арганізацыі камітэтаў сялянскай бядноты. Аднак пасьля спыненьня хатняй вайны, пасьля перамогі над Калчаком, Дэнікіным, Урангелем, Балаховічам на 8 зьезьдзе камуністычнай партыі Ленін выступае з сваёю вядомаю прамовай аб адносінах да сярэдняга сялянства. Гэтая частка сялянства пасьля падзелу абшарніцкай зямлі зьяўляецца пераважнай большасьцю ўсяго сялянства: пры гаспадарчай адбудове краю трэба галоўным чынам разьлічаць на гэтае сялянства. Дзеля гэтага Ленін вымагае ад сваіх партыйных таварышоў—„узяць пад асаблівую ўвагу варункі сялянскага жыцьця, вучыцца ад сялян спосабаў пераходу да лепшага гаспадарчага ўкладу, а не імкнуцца толькі камандаваць з гары“. Тут Ленін, правадыр работніцкай партыі, выступае быццам проціў свае ўласнае партыі. Дапамогу сялянам у іх гаспадарчай адбудове ставіць ён на першым пляне. Адгэтуль бярэ пачатак уся, так званая, новая эканамічная палітыка (Нэп). Сыстэма канфіскаты ўсіх зьлішкаў сельска-гаспадарчых прадуктаў, замяняецца на харчовы падатак, рэшту прадуктаў сяляне могуць прадаваць па вольным цэнам. Рознародныя харчовыя падаткі ў хуткім часе замяняюцца адзіным падаткам з сялянскіх гаспадарак, каб абляхчыць і зрабіць больш простым спосабам выплаты падатку. Цэлы рад загадаў у справе сельска-гаспадарчай асьветы, агранамічнай дапамогі і г. д. выплывае якраз з гэтых адносінаў Леніна да сялянства.

Сялянскім жыцьцём, тым, што робяць, што кажуць, чаго жадаюць і на што скардзяцца сяляне, цікавіўся Ленін да апошняга мамэнту, калі яшчэ мог з прычыны хваробы чым-небудзь займацца. Чытаньне прысыланых да газэт сялянскіх пісьмаў, з якіх загадаў рэгулярна рабіць сабе спэцыяльныя выняткі, было рэчай, якой прыдаваў вялікую вагу.

Ленін адкрыта казаў, што работнікі замала знаюць сялян, а ўзаемна пазнаць сябе яны павінны, каб дзеля ўласнага інтарэсу замацаваць і зрабіць трывалым работніцка-сялянскі саюз, гэтую падставу супольнага вызваленьня.

Да гэтай справы работніцка-сялянскага саюзу Ленін варочаўся не адзін раз і заўсёды вучыў гэтага сваіх партыйных таварышоў. На 11 зьезьдзе партыі ён казаў:

„Мы павінны зрабіць так, каб быў цесны саюз паміж нашай сацыялістычнай працай у вялікай прамысловасьці і ў зямельнай гаспадарцы і тою працаю, якою заняты кожны селянін, якую ён вядзе, як можа, вылазячы з нэндзы. Саюз гэты трэба выказаць так, каб мы яго выразна бачылі, каб увесь народ яго бачыў і каб усё сялянства бачыла, што паміж яго цяжкім, нячувана нэндзным і мучаніцкім жыцьцём цяпер, а тою працай, якую вядуць у імя далёкіх сацыялістычных ідэалаў камуністы, ёсьць сувязь. Трэба зрабіць так, каб кожнаму простаму чалавеку працы было зразумела, што ён атрымаў нейкае паляпшэньне быту. Нашым заданьнем зьяўляецца паказаць селяніну, што пачынаем ад таго, што ёсьць для селяніна зразумелым, вядомым і даступным, а не ад чагосьці далёкага, фантастычнага. Павінны паказаць, што зможам дапамагчы селяніну, што яму ў сучасным цяжкім пэрыядзе голаду і зьнішчэньня запраўды памагаем“.

Вось якія былі адносіны Леніна да сялянства. Сваёю працай ён нават сярод сваіх найбліжэйшых таварышоў змагаўся з упярэджаньнямі і старадаўнымі нібы-то сацыялістычнымі прывычкамі. Дзякуючы гэтаму, да прынцыпаў міжнароднага сацыялізму дадаў ён новы вельмі важны пагляд аб ролі работніцка-сялянскага саюзу ў рэвалюцыі і гэта напэўна застанецца адной з яго найважнейшых заслугаў.

